# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 28 (593) ГОД XII 9 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## 7 ліпеня — 85-тая гадавіна з дня нараджэння ЯНКІ КУПАЛЫ

# МАЯ НАВУКА

Мне мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх, —
Навучыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар;
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.

Душу акрылялі прыгожасці свету,
Па гонях пад небам лунала яна,
Купалася ў сонцы вясёлкай распетай,
Сама, як вясёлка, як казка-вясна.

І п'яная чарамі, п'яная песняй,
Як сон заваражаны райскіх мясцін,
Шаптала мне дзівы цвітучых прадвесняў
І песняй лілася з паходам часін.

Бурлівая рэчка і млын гутарлівы
Адмерным, раскоцістым плюскатам вод
Складалі мне рытму мастацкія звівы,
Парадквалі складаў раскоцісты ход.

Цяністыя бітага шляху прысады
І ў вырай лятучыя гусяў шнуры
Гармонію ўводзілі ў песельным складу,
Сачылі нязгоднай зваротак ігры.

Залёнае поле рунеючым збожжам,
Цвітучая ў сонечны цвет сенажаць
Мне песню квяцілі узорам прыгожым,
Вучылі, як словы ў вянок завіваць.

Ад шопату спелых пшанічных калоссяў,
Ад шэлесту лісцяў узмежных ігруш
Музычнае водгулле ў песню лілося,
Злівалася з жальбамі ўскрыўджаных душ.

Шум бору адвечнага казкавым сказам
Нашэптываў смутную повесць жыцця
І песню ў шум-гоман захопліваў разам,
Заснуўшыя душы будзіў з небыцця.

А сонца, скрозь сеючы іскры па свеце,
Мне песню іскрыла нябесным святлом,
А вецер, што ў полі рве дзёрны і сеці,
Даў волю і крылле лунаці арлом.

Каса, і сякера, і цэп малацьбітны
Магутную волатаў сілу далі;
Марозы і спёкі далі гарт нязбытны —
Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.

Так іншай не знаўшы навукі і школы,
Ўпацёмках шукаў і знайшоў божы дар:
Цяпер маймі скарбамі — думы-сакольі,
Цяпер беларускай я песні ўладар.

ЯНКА КУПАЛА





Праца мінскага майстра Н. Аграновіча «Я. Купала». Вышыўка гладдзю.

# На чале вёскі

У вялікай вёсцы многа спраў, якія хваляюць сялян. А ў такой вёсцы як Аўгустова, якая хутка развіваецца, разбудоўваецца і авансавала да сядзібы грамадскай рады, праблемаў яшчэ больш. У апошніх гадах адчуваецца тут уздым арганізатарскай працы і ініцыятывы.

Гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства (старшыня яго — Васіль Навіцкі) прапагуе беларускае слова, песню, музыку. Гурток ЛьЗС пасняхова развівае ў вёсцы фізічную культуру, а гурток вясковых гаспадынь уключаецца ў многія конкурсы. Аўгустоўская пажарная каманда таксама з'яўляецца добра арганізаванай і здысцыплінаванай.

Найбольшыя дасягненні мае сельскагаспадарчы гурток, які прычыніўся да змеханізавання ўсіх палявых работ і малацьбы. Гурток мае 12 трактараў і масу розных сельскагаспадарчых машын. Ён кожны год выпрацоўвае немалыя сумы чыстага даходу. У Аўгустове і ў краме, і ў злеўні малака, і на пошце існуе сумленнасць і парадак. А праца школы і бібліятэкі можа быць прыкладам для іншых вёсак, для іншых школ і бібліятэк.

У чым жа тут сакрэт поспехаў усіх арганізацый? Адказваем.

У Аўгустове ўмела і тактоўна разгортвае сваю дзейнасць партыйная арганізацыя Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Партыйная арганізацыя ў Аўгустове назірае за дзейнасцю ўсіх арганізацый і праводзіць кантроль іх працы. Вялікую ролю адыгрывае ў гэтым правільная расстаноўка членаў партыі. Усе з іх маюць партыйныя паручэнні, у тым ліку і паручэнні адносна апекі і партыйнага кіраўніцтва існуючымі арганізацыямі. І так, напрыклад, адказныя: за працу БГКТ — Кастусь Уласюк, за СВМ — Юры Пархоменка, за ЛьЗС — Міхась Малішэўскі, за гурток вясковых гаспадынь — Надзя Скарбіловіч і Еўфрасінія Вышкоўская.

(Працяг на стар. 5)

# БГКТ

### ПЛАН ПРАЦЫ НА II-е ПАЎГОДДЗЕ

На апошнім пленарным пасяджэнні Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку быў зацверджаны план працы на другое паўгоддзе 1967 года.

Асабліва добрым у гэтым плане з'яўляецца тое, што ў ім навязваецца да беларускай літаратуры і фальклору.

Вось, напрыклад, у кастрычніку запланавана правесці ўрачыстае пасяджэнне з нагоды гадавін беларускіх пісьменнікаў: Янкі Купалы і Якуба Коласа, у лістападзе будзе адзначацца 80-я гадавіна з дня нараджэння і 30 гадавіна з дня смерці Цішкі Гартнага, а ў снежні аддзел арганізуе ўрачыстасць па поваду 65 гадавіны з дня нараджэння Міхася Машары. Цікавым мерапрыемствам у аддзеле будзе (ў верасні) спатканне з «жывым фальклорам». На вечарыну будуць запрошаны стваральнікі і адначасова выканаўцы фальклору — старыя жанчыны. Адной з іх будзе Агата Карпюк з Капітаншчыны.

Паводле плана ў другім паўгоддзі аддзел арганізуе таксама аўтарскія сустрэчы з членамі літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» — Віктарам Шведам і Янкам Чыквінам.

Аддзел БГКТ у Беластоку запланаваў шмат мерапрыемстваў прысвечаных Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да іх належаць: а) даклад «50 год беларускай літаратуры», б) сустрэча з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, в) фотавыстаўка, г) урачыстае пасяджэнне (акадэмія).

Аддзел урачыстымі вечарынамі адзначыць таксама ў ліпені 23 гадавіну Народнай Польшчы і ў жніўні 900-годдзе сталіцы Беларусі — Мінска.

Згодна з планам, у верасні адбудзецца спатканне і запачаткуецца супрацоўніцтва з навучэнцамі сярэдніх школ, якія выйшлі з беларускага асяроддзя, а ў кастрычніку будзе сустрэча са старшынёй аддзела культуры Гарадской рады нарадовай у Беластоку.

Да іншых больш цікавых мерапрыемстваў трэба залічыць: вечар успамінаў (снежань) пенсіянераў аб рабочым руху і «Згадуй згадулю» аб БГКТ.

Пасля кожнага мерапрыемства будзе дэманстравацца савецкі фільм.

У другой палавіне снежня адбудзецца справаздачная канферэнцыя, якая ацэніць працу аддзела за 1967 год і накрэсліць напрамкі дзейнасці ў наступным годзе. (мх)

### ЗБОРНІК В. ШВЕДА

Ужо выйшаў з друку зборнік вершаў Віктара Шведа пад загалоўкам «Жыццёвыя сцежкі».

Зборнік складаецца з трох частак: першая пад загалоўкам «Бацькоўскі парог». Тэматыка гэтых вершаў перш за ўсё грамадская.

Другая частка называецца «Кот мурлыка». Гэта дзіцячыя вершы. І яны вельмі цікавыя, найбольш уданыя з мастацкага боку.

Трэцяя частка зборніка мае загаловак «Выбачайце, калі ласка». Тут вершы сатырычныя.

Зборнік мае 160 старонак і каштуе 6 зл. Можна яго купіць у ГП БГКТ і ва ўсіх аддзелах Беларускага таварыства.

### ПАЕЗДКА

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 25 чэрвеня арганізаваў для свайго актыву паездку аўтобусам ПКС на мітынг дружбы ў Ялоўку. (мх)

# У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

**22 чэрвеня г.г. у Банях Мазурскіх (Голдапскі павет) адбылося выязное пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Камісія знаёмілася з працай мясцовага аддзела Украінскага грамадска-культурнага таварыства. У пасяджэнні ўзяў удзел прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Зыгмунт Кіта.**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### КАНІКУЛАЎ НЕ БУДЗЕ

Усё паказвае на тое, што ў гэтым годзе не будзе перапынку ў дыпламатычных акцыях. Прычынай таго ёсць не толькі адбываючаяся надзвычайная Сесія ААН, але перад усім сустрэчы дзяржаўных дзеячоў. Да найважнейшых можна залічыць спатканне **Касыгіна з Джонсанам.** Паводле выказванняў Касыгіна і Джонсана сустрэча гэта не наблізіла абедзвюх дзяржаў да сябе. Усё ж значэнне яе вялікае:

1) Спатканне даказала, што ключ у справах міру і вайны знаходзіцца ў руках дзвюх дзяржаў — СССР і ЗША;

2) Не меншае значэнне мае сам факт, што шэфы дзяржаў згадзіліся на такога тыпу сустрэчу ў час так напружанай міжнароднай абстаноўкі.

На парадку дня ў часе сустрэчы стаялі тры справы: Блізкі Усход, В'етнам і нераспаўсюджванне тэрмаядзернай зброі. Апрача таго адбылося многа іншых двухбаковых сустрэч: Прэм'ер **Ю. Цыранкевіч** сустрэўся з прэм'ерам ГДР **В. Штофам** і гутарылі аб мемарандум урада ГДР да ААН у справе падрыхтоўкі ў ФРГ ізраільскіх ваенных і інш. А. Касыгін прабываў на Кубе і другі раз спаткаўся з дэ Голем у Парыжы. У Парыжы прабываў таксама румынскі прэм'ер Маўрэр. **Н. Падгорны** прабываў у Каіры, а калі аддаем нумар да друку, знаходзіцца з візітам у Сірыі. Французскі прэм'ер у панядзелак прыбыў у Маскву.

### • У ААН

Не ведаем вынікаў галасавання ў ААН над складзенымі рэзалюцыямі. Вядома аднак, што ЗША вуснамі іншых амерыканскіх краін злажылі рэзалюцыю, якою хочуць прыглушыць усеагульны гнеў і абурэнне народаў на ізраільскіх агрэсараў і адначасова хочуць захаваць свае ўплывы ў арабскіх краінах.

Якая б рэзалюцыя не была адно стаіць на перашкодзе, што ААН можа прыняць найбольш вострую рэзалюцыю супроць Ізраіля ўсё ж **ААН не дыспануе ніякімі санкцыямі.** Дыспануе імі выключна Савет Бяспекі, а тут зноў справы завужваюцца да ЗША і СССР.

### ІЗРАІЛЬ — ФРГ

Марш і захопніцтва Ізраіля ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі лічыцца як братэрскі паход. Некаторыя заходнегерманскія газеты параўноўваюць Іерусалім з Берлінам і гавораць, што ніхто ад Ізраіля не мог толькі навучыцца, колькі ФРГ.

### ЗАПАЛЬНЫЯ ПУНКТЫ

**Балівія** — 2,7 мільёна насельніцтва; 1,1 мільёна кв. км; 9 жыхароў на квадратны кіламетр. Месца амерыканскай інтэрвенцыі супроць мясцовых рэвалюцыянераў.

### НЕГР КАСМАНАЎТАМ

34-гадовага негра паклікана як члена калектыву амерыканскіх касманаўтаў. З'яўляецца ён доктарам хіміі, а лётчыкам стаў у 1957 годзе і праз нейкі час абучаў заходнегерманскіх лётчыкаў.

АК

## БССР

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

Адбыўся сход актыву Мінскай абласной партыйнай арганізацыі. З дакладам аб выніках апошняга пленума ЦК КПСС і задачах партыйных арганізацый выступіў П. Машэраў, першы сакратар беларускай кампартыі.

Сход прыняў рэзалюцыю, якая поўнасцю падтрымлівае палітычную лінію і практычную дзейнасць Палітбюро ЦК у сувязі з агрэсіяй Ізраіля.

### МАРУДНА

У Камітэце народнага кантролю Беларускай ССР разглядалася справа падрыхтоўкі да жніва.

«...рамонт уборачнай тэхнікі па рэспубліцы вядзецца марудна, не заўсёды якасна. Асаблівую трывогу выклікае падрыхтоўка збожжавых і сіласаўборачных камбайнаў, якіх адрамантавана крыху больш палавіны» — сцверджана на нарадзе ў Камітэце.

Сур'ёзныя папрокі выказана таксама ў адрас сельскагаспадарчага будаўніцтва.

### ПОЛЬСКІЯ

Беларусь наведалі польскія меліяратары. Госці знаёміліся з дасведчаннем па асушцы і загаспадаранні тарфянікаў.

Дэлегацыю польскіх меліяратараў прыняў А. Аляксанкін, беларускі міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі.

### АТЛАС

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Беларускай Акадэміі навук рыхтуе гістарычна-этнаграфічны атлас, які будзе складацца з каля трохсот картаў. Дзякуючы такому выданню можна будзе мець нагляднае ўяўленне аб асаблівасцях матэрыяльнай культуры беларускага народа, яго сельскагаспадарчай тэхніцы і народным адзенні, будаўніцтве.

Атлас пакажа тры перыяды: сярэдзіну XIX ст., канец XIX ст. і пачатак XX ст., і савецкі час.

### ГРОДЗЕНСКАГА

На чацвёртым Усесаюзным фестывалі аматарскіх фільмаў, які адбыўся ў Маскве, фільм «Маржы Беларусі» атрымаў адну з самых высокіх ацэнак.

«Маржы Беларусі» зроблены ў аматарскай кінастудыі Гродзенскага гарадскога Дома настаўніка.

### КАРАТКЕВІЧ

Беларуская камсамольская газета «Чырвоная змена» друкуе нядзельныя гутаркі. У адной з апошніх гутарак выступіў вядомы нам Уладзімір Караткевіч, таленавіты беларускі празаік і паэт.

«...ні табе, ні мне, нікому на зямлі нельга кінуць справу сваю, нельга пазбыцца адказнасці за яе, — піша Ул. Караткевіч у сваёй рэфлексійнай гутарцы. — ...Адкуль ты ведаеш, дружа, што ты не здатны да таго, кабісці першым? Чаму загадзя згаджаешся, што месца тваё не наперадзе?..

...Інертнасць дужа небяспечная рэч. Часам яна нараджае зло, таму ніколі не забывай аб гэтым. Вось чаму ў хвасце і не трэба цягнуцца».

Тэма наступнай гутаркі — «Як важна быць самастойным». **(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### РЭАЛІЗАЦЫЯ ПЛАНАЎ

У Цэнтральным Камітэце партыі адбылася нарада эканамічных сакратароў Ваяводскіх камітэтаў партыі прысвечаная рэалізацыі планаў цяжкай прамысловасці і функцыяніраванню новай фінансавай сістэмы. З інфармацыі, якую на нарадзе склаў член палітычнага бюро партыі Балеслаў Яшчук вынікае, што ў гэтым годзе план прадукцыі ў цяжкай прамысловасці можа быць перавыкананы на каля 900 мільёнаў злотых.

### ПРАТЭСТЫ

У многіх гарадах краіны адбыліся сходы і мітынгі, на якіх прысутныя пратэставалі супраць ізраільскай агрэсіі на аравійскія краіны. Выказвана прытым падтрымку становішча польскага ўрада і савецкага праекта заявы складзенай на надзвычайнай сесіі ААН.

### ЗБОЖЖА

У рамках заключанага ў снежні мінулага года дагавору паміж Польшчай а СССР прывезена ў Польшчу паўмільёна тон савецкага збожжа.

### ДАПАМОГА ПАКРЫЎДЖАНЫМ

Віцэ-прэм'ер П. Ярашэвіч паведаміў пасла Аб'яднанай Аравійскай Рэспублікі А. Афру аб рашэнні польскага ўрада прысці з дапамогай ахвярам ізраільскай агрэсіі. Паінфармавана таксама афіцыйна ўрады Сірыі і Іарданіі аб дапамозе ахвярам вайны ў гэтых краінах. У рамках дапамогі дзяржавы гэтыя атрымаюць харчы, лякарствы, вопратку, прылады хатняга абсталявання і іншыя прадукты.

### ПОЛЬШЧА — КАЛУМБІЯ

У Варшаве падпісана дагавор аб навуковым і тэхнічным супрацоўніцтве паміж Польшчаю і Калумбіяй. Прадбачыць ён між іншым абмен навуковых экспертаў, супольныя эканамічныя і тэхнічныя доследы.

### НА ЧЫГУНКАХ

Міністэрства камунікацыі выдала распараджэнні, што пасажыры, якія маюць білет II класа, могуць ехаць на калідорах вагонаў I класа, калі вагоны II класа перапоўнены. Адначасова дадзена кандуктарам указанне стасаваць у адносінах да пасажыраў, якія мюць дробныя білетныя непаладкі, падыход даверу.

### МАРСКІ ФЛОТ

Гандлёвы марскі флот у Польшчы мае ў сваім распараджэнні 205 караблі. Курсуюць яны на 34 рэгулярных лініях, у тым ліку 14 акеанскіх, 12 еўрапейскіх і 8 балтыйскіх. У гэтым годзе гандлёвы флот заробіць каля 70 мільёнаў долараў.

### РЫБЫ Ў КІПЯТКУ

Каля 2500 кілаграмаў прыгожай рыбы зварылася жыўцом у жараньскім канале ў выніку таго, што жараньская электрацяплоўня спусціла ў канал вялікую колькасць кіпятку. Адначасова варшаўскі друк падае, што цёплая вада, у якую забяспечвае варшаўскія памяшканні гэтая электрацяплоўня, мае вельмі нізкую тэмпературу. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Ваяводскага камітэта Дэмакратычнай партыі (СД), прысвечаны галоўным напрамкам палітычнай дзейнасці ваяводскай арганізацыі СД.

### ЦЯЖКАСЦІ

Адбыўся пленум Ваяводскага камітэта па справах сельскай гаспадаркі, на якім абмеркавана сітуацыю ў беластоцкай малачарскай гаспадарцы.

У 1964 годзе было закуплена на Беласточчыне 218 мільёнаў літраў малака, а ў мінулым годзе ўжо аж 285 мільёнаў літраў малака. Гаспадары зарабілі на малацэ 672 мільёны злотых. Прадукцыя малака ў нашай краіне з'яўляецца адной з найбольшых у свеце, калі лічыць лік літраў малака, спажыванага адной асобаю.

У сучасны момант сітуацыя такая, што дзяржаўны і спулдзельчы гандаль не мае магчымасці закупіць усяго малака, прапанаванага на продаж гаспадарамі. Нашы малачарні хутка аказаліся замалымі, трэба пабудаваць многа новых і значна большых малачарняў.

### ПРАТЭСТ

«Беластоцкая Газета» апублікавала пратэст ГП БГКТ супраць агрэсіі Ізраіля на Блізкім Усходзе.

### ВЫГОДЗКІ

Вядомы польскі пісьменнік Станіслаў Выгодзкі наведаў Гайнаўку.

### НА САКОЛЬШЧЫНЕ

У сувязі з міжнароднай біялагічнай праграмай польскія вучоныя-антраполагі праводзяць доследы ў Саколцы, Крушынянах і Багоніках. З'яўляецца гэта каштоўным укладам у вывучэнне Сакольшчыны.

### СУСТРЭЧА

У прыгранічнай мясцовасці Ялоўка адбылася сустрэча беластоцкіх гарцэраў з гродзенскімі піянерамі.

### КАНТРОЛЬ

У сувязі **з вялікім рухам** на дарогах у летні час, беластоцкая міліцыя ўзмацніла кантроль. Асабліва небяспечнымі з'яўляюцца **п'яныя шафёры**. У гэтым годзе на беластоцкіх дарогах загінула ўжо чатыры асобы і адзінаццаць асоб цяжка паранена.

### БАРАНГІ

У беластоцкім тэатры імя Аляксандра Вянгеркі адбылася прэм'ера камедыі сучаснага румынскага драматурга Аўрэля Барангі — «Кшыштофе, не шалей».

На прэм'еру прыбылі прадстаўнікі румынскага пасольства ў Варшаве.

### ЭКЗАМЕНЫ

Ва ўступных экзаменах у Беластоцкай Інжынерскай школе прымала ўдзел 650 кандыдатаў, у Медыцынскай акадэміі — 700 кандыдатаў, у завочным і вечаровым аддзяленні Інжынерскай школы ўступныя экзамены здавала 263 кандыдаты, здало — 139. (ся)




NIEDZIELA, 9.VII.

10.00 „Przypominamy, radzimy"; 10.10 „Dar Nilu" — film („Egipcjanie"); 11.05 „Miauczenie kota" — film („Czarownice"); 11.35 Dziennik; 11.45 „Bać się, czy się nie bać" („W starym kinie"); 12.45 „Zespoły Studenckie"; 13.25 „Przemiany"; 13.55 „Teatrzyk w koszu" — „Bohater do wynajęcia"; 14.40 „Gawędy wilków morskich"; 15.05 „W rytmie mocnego uderzenia" — teleturniej; 16.00 „Kraków, ale z góry..." („Piórkiem i węglem"); 16.25 Koncert Zespołu Pieśni i Tańca „Wielkopolska"; 17.05 Sprawozdanie sportowe; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wykład prof. Tutki w wyższej szkole handlowej" — film („Klub Prof. Tutki"); 20.20 „Tu byłam szczęśliwa" — film fab. ang.; 21.50 „Niedziela Sportowa".

PONIEDZIAŁEK, 10.VII.

17.25 Dziennik; 17.30 „Wenecka suita" — film rozrywkowy CSRS; 17.40 Kino Krótkich Filmów; 18.15 „Eureka"; 18.45 „Gorąca linia"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Brzegiem Kaspijskiego Morza" („Od Kaukazu do Tiań-Szaniu"); 20.05 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: F. Dostojewski — „Zbrodnia i kara"; 21.55 Reportaż filmowy; 22.15 Dziennik.

WTOREK, 11.VII.

10.00 „Kraksa" — film fab. radz.; 17.15 „Telekram"; 17.25 Dziennik; 17.30 TELEFERIE: 1. TV Kronika Podwórkowa, 2. „Przygody Robin Hooda" — film, 3. „Turniej o Żółtą Żyrafę"; 18.45 Recital duetu: Danuta Rinn i Bogdan Czyżewski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 TV Kurier Warszawski; 20.20 „Próby"; 20.45 „Kraksa" — film fab. radz.; 22.20 „Kronika Kulturalna"; 22.40 Dziennik.

ŚRODA, 12.VII.

10.00 „Druga młodość cioci" — film fab. węg.; 17.15 PKF; 17.25 Dziennik; 17.30 Progr. publ.; 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Tadeusz Kalinowski; 18.30 Wszechnica TV: „Porty na Wiśle" („Spacerki Warszawskie"); 19.05 „Alzacja" — film fr. („Zakątki Francji"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Spotkanie z mordercą" film tv („Podziemny front"); 20.30 „Gdzieś w powiecie?"; 20.55 „Koncert na fortepian, trąbkę i orkiestrę smyczkową"; 21.25 „Światowid"; 21.55 „Alcatraz express" — film tv USA; 22.45 Dziennik.

CZWARTEK, 13.VII.

17.25 Dziennik; 17.30 „Tramp"; 17.50 Film; 18.40 „Azymut" 19.05 „Ściana" — film tv radziecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Progr. publ.; 20.45 „Czarna teczka" — film fab. franc.; 22.35 Magazyn Medyczny; 23.05 Dziennik.

PIĄTEK, 14.VII.

10.00 „Dwadzieścia godzin" — film fab. węg.; 17.25 Dziennik; 17.30 TELEFERIE: 1. „Latający Holender", 2. „Przygody Robin Hooda" — film, 3. „Pierwsza Pomoc Wakacyjna"; 18.45 Wszechnica TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 TV Kurier Mazowiecki; 20.20 „Dwadzieścia godzin" — film fab. węg.; 22.15 „10 minut recenzji"; 22.25 Dziennik.

SOBOTA, 15.VII.

10.00 „Kleopatra" — film fab. USA; 16.35 Program tygodnia; 16.55 Dziennik; 17.00 Sprawozdanie sportowe; 18.00 „Spotkania z przyrodą"; 18.25 „Śladem tysiąca stażystów" („7 milionów młodych"); 18.40 „W Himalajach" — film („Za siedmioma górami"); 19.05 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Satyra Światopełka Karpińskiego" — „Kredą po parkanie" — program rozrywkowy; 20.55 Dziennik; 21.10 Wiadomości sportowe; 21.20 „Kleopatra" — film fab. USA;




7 LIPCA

14.40 Program; 14.45 Dziennik; 14.50 Film animowany dla dzieci; 15.00 Tydzień Turkmeńskiej SRR w Moskwie; 16.00 Wszechzwiązkowy festiwal twórczości amatorskiej; 16.50 W muzeum Janki Kupały; 17.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów) — CSKA (Moskwa); 18.45 Sztafeta nowin; 19.40 „Sześć razy sześć". Koncert; 20.05 Dla absolwentów szkół średnich.

8 LIPCA

11.50 Program; 11.55 Dziennik; 12.00 Tydzień Turkmeńskiej SRR w Moskwie; 12.30 Dla uczniów. 13.10 „Rewolucyjny marsz nauki"; 13.30 „Światło elektrogrodu"; 14.00 „Kapitanowie statków powietrznych"; 14.30 Dziennik; 14.55 „Strach". Premiera teatru TV; 16.00 „EXPO-67"; 16.15 Międzynarodowe zawody lekkoatletyczne; 18.40 Dziennik; 19.00 Tydzień Turkmeńskiej SRR. „Ogoniok"; 20.00 Koncert laureatów międzynarodowego konkursu młodych śpiewaków operowych (z Bułgarii).

9 LIPCA

7.40 Program; 7.45 Reportaż ze święta lotnictwa; 11.40 Dla uczniów; 12.00 „A ludzie idą na morze"; 12.30 O wszechbiałoruskim przeglądzie młodych talentów; 13.00 „Mistrzostwa"; 13.30 Koncet życzeń dla lotników; 14.10 „Białe i czarne"; 14.30 „Kiosk muzyczny"; 15.00 „Październik i młodzież"; 15.40 Klub filmowy; 16.45 Międzynarodowe zawody lekkoatletyczne; 18.40 Dziennik; 19.00 „Białoruś — moja republika"; 20.05 „Normandia — Niemen". Film.



Беластоцкі і гродзенскі хлеб — сімвал дружбы і братэрства.

У сваёй гісторыі Ялоўка а мо і ўся Беласточчына не мела так вялікага свята, як дзень 25 чэрвеня г.г. Іменна тут адбыўся вялікі мітынг дружбы насельніцтва Беласточчыны і братняй Гродзеншчыны. Мітынг быў прысвечаны вялікаму святу 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

З самай раніцы дарога, якая вяла ў Ялоўку, перапоўненая самаходамі, якія везлі дэлегацыі на мітынг дружбы. Ля самай вёскі Ялоўка фурманкі сялян запоўненыя людзьмі памяшаліся з каляровымі «Волгамі», «Варшавамі», «Масквічамі». Едуць у адным радку. Восем гадзін раніцы. Ялоўка выглядае пасвяточнаму, прыймаючы матацыклістаў, тысячы самаходаў, усіх, хто прышоў сюды і прыехаў, каб святкаваць, каб умацоўваць дружбу, каб пабачыцца пры аказіі са сваякамі. Прабіваемся ў алею, дзе ўсё чакае на прысутных, дзе польскія кіёскі памяшаліся з савецкімі ларкамі і толькі паводле тавараў можна іх адрозніць. Набліжаецца дзесяць гадзін. Над граніцаю штораз большы гоман. Насупраць бачым мнагатысячную групу прадстаўнікоў Гродзеншчыны. Пакуль што раздзяляе нас граніца, але зараз яна не будзе істотнай. Мы ўжо знаёмімся з прыбыўшымі да нас беларускімі журналістамі. Роўна дзесяць, і перад намі пачынае як бы плысці паток людзей. Адкрываюцца вароты граніцы, і ўжо гродзенскія сябры на нашай Беластоцкай зямлі. Плаўна набліжаюцца да месца мітынгу сцягі СССР і БССР, а ў сярэдзіне беларускі хлеб і соль — прызнак братэрства, сардэчнасці і дружбы. Насустрач беластоцкая дэлегацыя таксама з хлебам і соллю. Набліжаюцца да сябе. На чале дэлегацыі першыя сакратары партый. Беластоцкае ваяводства прадстаўляюць: член ЦК, першы сакратар ВК ПАРП **Аркадзь Лашэвіч** і старшыня Прэзідыума ВРН **Стэфан Жмійка**, а Гродзенскую вобласць: першы сакратар Абласнога камітэта КПБ **Уладзімір Міцкевіч** і старшыня аблвыканкома **Мікалай Малочка.** А. Лашэвіч вітае хлебам і соллю. Кіраўнікі дэлегацый сардэчна вітаюцца, але вітаюцца не толькі кіраўнікі, вітаецца ўжо шматтысячная армія людзей, якія запоўнілі прыгранічную паласу.



Першыя крокі на польскай зямлі.

# БРАТЭРСТВА І САРДЭЧНАСЦЬ



Гродзенскі падарунак — скульптура Леніна.



Шматтысячны мітынг.



Мастацкі калектыў Палаца тэкстыльшчыкаў з Гродна.

Пачынаецца мітынг, які адкрывае старшыня прэзідыум ВРН С. Жмійка. Духавы аркестр іграе гімны: СССР, БССР і Польшчы. Да прысутных з прамовaю выступае тав. А. Лашэвіч, які горача вітае прыбыўшых на мітынг сяброў з Гродзеншчыны, падкрэсліваючы традыцыі дружбы, якія спалучаюць абодва нашы народы. Затым з цёплымі словамі прывітання звярнуўся да прысутных першы сакратар абкома ў Гродне, Ул. Міцкевіч. Наступае абмен падаркамі: Беласточчына дарыць кілім з вышытым арлом, а Гродзеншчына вылітую ў бронзе фігуру - постаць Ул. І. Леніна. На трыбуне прадстаўнікі маладзёжных арганізацый. Ад імя беластоцкай моладзі выступіў намеснік старшыні Ваяводскага праўлення ЗМС **Мікалай Казак,** а ад імя гродзенскай моладзі выступіла **Клаўдзія Нікан** сакратар камсамольскай арганізацыі абутковага камбіната «Нёман» у Гродне.

Слова мае старшыня камітэта Фронту адзінства народа пасол на сейм **Станіслаў Юхніцкі.** Прадстаўляе ён тэкст супольнай рэзалюцыі, у якой між іншым асуджаецца імперыялістычную інтэрвенцыю на Блізкім Усходзе і амерыканскую прагрэсіўную брудную вайну ва В'етнаме. Гімн Інтэрнацыянала заключае афіцыйную частку вялікага мітынга дружбы.

Кароценькі перапынак і зараз на «эстрадзе» пакажуцца мастацкія калектывы. Беласток прадстаўляе ансамбль песні і танца «Курпе зелёнэ». Больш багатай у гэтым напрамку аказалася Гродзеншчына. Сюды прыехалі калектывы з Гродна і Ліды. Штопраўда, не ўсе нумары праграмы былі выкананы, таму што перашкаджаў дождж, але тое, што паказалі, гаворыць аб высокім узроўні мастацкай самадзейнасці нашых суседзяў. На колькі захапляючымі былі выступленні калектываў сведчыць тое, што многатысячнага натоўпу людзей не змог адагнаць дождж.

Пакідаем мастацкія калектывы і ідзем у лясную алею. Усюды поўна людзей: вітаюцца, цалуюцца, хто са знаёмымі, сваякамі, а хто знаёміцца, і тут жа ідуць да бочкі з хлебным квасам ці да польскага піва. Пры інфармацыйных пунктах чэргі людзей, якія чакаюць на тое, каб адшукаць знаёмых, сваякоў. Бесперапынна працуюць звукагаварыцелі, якія падаюць то на польскай, то на беларускай, то на рускай мовах прозвішчы тых, хто шукаецца. Больш спраўна адшукоўваліся калектывы пасобных прадпрыемстваў і фабрык. Многія з іх сустракаюцца ўжо не ўпершыню. Усюды адчуваецца велізарная шчырасць і сардэчнасць. Раскінутыя па лесе рэстараны, наш Беластоцкі і Гродзенскі «Нёман» і «Ластачка» запоўненыя.



Першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ Ул. Міцкевіч і І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч.

А далей за лесам у бок Ялоўкі таксама ёсць на што глядзець. Тут сабраліся балельшчыкі і ўсе тыя, хто любіць спорт. Гродзеншчына паставіла дзве каманды валейбалістаў. Пачаткова барацьба даволі выраўнаная, але канец матчаў паказвае, што каманды Гродна лепшыя, выйгралі яны 3:0. На гэтым яшчэ не канец. Прысутныя тут кіраўнікі спорту Беласточчыны і Гродзеншчыны заяўляюць, што спартсмены нашых братніх ваяводстваў толькі ў гэтым годзе яшчэ сустрэнуцца 7 разоў.

Набліжаецца вечар. Адны другіх пачынаюць праводзіць. У многіх у вачах слёзы, слёзы радасці і жадання, каб часцей сустракацца, а часцей сустракацца — гэта абазначае яшчэ больш любіць адзін аднаго.

**А. Карпюк**
Фота аўтара



## Вялікі чытальніцкі конкурс

### ШТО НОВАГА?

Гарадская і Павятовая бібліятэкі ў Гайнаўцы прыслалі нам партыю купонаў, 48 штук конкурсу «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача».

*

Сёння пачынаем друк выказванняў удзельнікаў конкурсу. Просім далей шырока ўключацца ў наш конкурс. Узнагароды чакаюць.

### ХТО ШТО СКАЗАЎ?

**Валянціна Дзмітрук,** Рыбалы, Бельскі павет, 17 год.

Прачытала: **«Зімою»** Янкі Купалы, **«Векапомныя дні»** М. Лынькова, **«У глыбі Палесся»** Якуба Коласа.

«Больш за ўсё падабалася мне кніжка «У глыбі Палесся». З яе я даведалася аб жыцці палешукоў, пазнала іх культуру».

**Іван Троц, сын М.**, Рудуты, Бельскі павет, 12 год.

Прачытаў: **«Апавяданні»** Змітрака Бядулі, **«Бандароўна»** Я. Купалы.

«Гэтыя творы мне вельмі падабаліся. Я даведаўся з іх аб жыцці дзяцей перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй».

**Людміла Бурыла,** Леўкі, Бельскі павет, 16 год.

Прачытала: **«Новая зямля»** Я. Коласа, **«На прасторах жыцця»** Я. Коласа, **«Сымон музыка»** Я. Коласа.

«Я вельмі люблю чытаць творы Коласа. Ён піша вельмі рэалістычна. Калі чытаеш, дык перажываеш разам з героямі. Колас апісвае вельмі прыгожа пейзажы».

**Антаніна Гаўрылюк,** Леўкі, 17 год.

Прачытала: **«Рыбакова хата»** Я. Коласа, **«Салавей»** З. Бядулі, **«На прасторах жыцця»** Я. Коласа.

«Выбраныя творы вельмі мне спадабаліся. Я жыву на вёсцы. Асяроддзе герояў мне вельмі блізкае. У творах празаічных героямі з'яўляюцца маладыя. Іх перажыванні, пачуцці параўноўваць магу са сваімі. Чытаючы кніжкі беларускія я перажываю разам з героямі».

(вл)

## БУДАВАННЕ

У гэтым годзе пры спулдзельнях «Самапомачы» будуецца шмат розных складаў, новых крамаў, нават рэстаранаў ды пякарняў. На гэты год прызначана на збудаванне іх больш, чым 170 мільёнаў злотых.

З гэтых грошай будуюць таксама аб'екты, патрэбныя вясковым спулдзельням здароўя.

(ся)




У часы санацыйнай Польшчы ад красавіка 1934 г. да верасня 1939 г. у тагачасным Пружанскім павеце, Палескага ваяводства, пры гмінным мястэчку Картуз - Бяроза існаваў канцэнтрацыйны лагер, утвораны па прыкладу нямецкіх гітлераўскіх лагераў. 18-га верасня 1939 г. Чырвоная Армія адчыніла браму лагера і асвабадзіла каля трох тысяч вязняў.

Праз звыш пяць год існавання лагера пабывала ў ім некалькі тысяч актыўных дзеячаў рэвалюцыйнага руху ў Польшчы — палякаў, беларусаў, украінцаў, яўрэяў, літоўцаў і іншых нацыянальнасцей, якія пражывалі ў Польшчы. Многія з іх праходзілі праз лагер па два і тры разы. Вельмі многа былых «беразякаў» загінула падчас вайны 1939—1945 г. г. у радах Савецкай і Польскай армій і ў партызанскім руху, а нямала памерла ўжо да гэтай пары ў паваенныя гады. Асталася ў жывых ужо невялікая іх колькасць. Існуючая пры Інстытуце гісторыі партыі ў ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі секцыя былых «беразякаў» устанавіла, што жыве сёння ў Польшчы іх каля 300 асоб і ў Савецкім Саюзе каля паловы гэтай колькасці.

І вось у 30 год ад часу найбольш масавага запаўняння канцлагера ў Картуз - Бярозе, Інстытуты гісторыі партыі пры ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі і ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, пры дапамозе Таварыства польска - савецкай дружбы і Таварыства савецка-польскай дружбы — арганізавалі выезд з Польшчы ў Картуз - Бярозу групы 150 асоб былых вязняў тагачаснага канцлагера. Выехалі мы чатырма аўтакарамі 5-га чэрвеня і былі ў Савецкай Беларусі да 9-га чэрвеня.

Групу ўзначальвалі «беразякі» таварышы: Леан Стасяк — кіраўнік аддзела прапаганды ЦК ПАРП, Люцыян Матыка — міністр культуры, Аляксандр Бурскі — старшыня Камітэта працы і зарплаты пры Радзе Міністраў ПНР і старыя заслужаныя дзеячы КПП — Трафім Марышчук і Шымон Захарыяш.

За Тэрэсполем, на польска - савецкай граніцы дружбы, па-братэрску — цёпла і сардэчна прывіталі прадстаўнікі ўлад, ветэраны падпольнай барацьбы і былыя «беразякі».

Вуліцы Брэста, якімі мы ехалі да гасцініцы «Буг», былі ўпрыгожаны чырвонымі флажкамі і транспарантамі з прывітальнымі надпісамі.

6-га чэрвеня ў 9-ць мы паехалі ў Бярозу. Бяроза — цяпер прыгожы горад, раённы цэнтр. Нашы аўтакары шпарка імкнулі па шырокай асфальтовай шашы, якая вядзе з Брэста ў Маскву праз сталіцу Беларусі — Мінск. Вакол свежасць прыгожай зелені палёў, сенажацяў і садоў.

На граніцы Кобрынска - Бярозаўскага раёнаў зноў сустрэча. Сустрэлі тут нас прадстаўнікі Бярозаўскага райкома і райвыканкома, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных устаноў, старыя камуністы, «беразякі», якія прыехалі ў Картуз - Бярозу на сустрэчу з намі з розных гарадоў і раёнаў Савецкай Беларусі і Савецкай Украіны, а дзяўчаты прыгажуні ўручылі нам кветкі. Разам з сустракаючымі мы паехалі ў Бярозу.

Аўтакары затрымаліся ля брамы, за якою і за высокім дзеравяным плотам знаходзіўся калісьці канцлагер. Плот такі самы як быў, толькі тады на плоце былі густыя звіткі калючага дроту. З вонкавага боку плоту, ад вуліцы (якая цяпер мае імя Леніна) стаіць з белага мармуру абеліск з надпісам:

«Тут ад 1934 г. да верасня 1939 г. знаходзіўся канцлагер «Берэза - Картузская». У ім праз гэтыя гады мучылі і каталі тысячы рэвалюцыянераў Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Польшчы — барацьбітаў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных».

Падчас складання пад абеліскам вянка на ганаровай варце стаялі вакол абеліска бярозаўскія піянеры. Злажылі вянкі і кветкі прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый. Складалі кветкі дзеці і жыхары Бярозы і акалічных вёсак, якіх шмат прыбыло на месца канцлагера, каб сустрэцца з намі. Мы стаялі ў задуме вакол абеліска, глядзелі на прыкрываючыя яго кветкі, а перад нашымі вачыма перасоўваліся, быццам на экране кіно, вобразы з нашага жыцця праведзенага ў канцлагеры «Берэзе-Картузскай». Гэтыя вобразы перажытых намі здзекаў і катаванняў прадставіліся выразней, як бы ажылі ў нашых вачах, калі мы, увайшоўшы на тэрыторыю былога канцлагера праз браму, праз якую ўводзілі нас калісьці з наручнікамі на руках, убачылі плошчы і будынкі — атрыбуты лагера. «Беразякі» пачалі голасна ўспамінаць: тут была плошча, на якой паліцаі займаліся фіззарадкай і гралі ў мяч, там быў карцэр, а вось дарожка, якую мы зрабілі з бітай цэглы, якую мы ўбівалі ў зямлю каленьмі пад свіст і спаданне на нашыя целы гумовых палак. Мы ішлі па тэрыторыі былога канцлагера і ўспаміналі тыя часы, калі мы не былі людзьмі з прозвішчамі і імёнамі, а былі толькі нумарамі. Вялікія хвалявавні і ўзрушэнні мы перажывалі ходзячы па тэрыторыі колішняга канцлагера.

Потым былі мы ў Бярозе ў Гістарычна - рэвалюцыйным музеі, у якім дзве вялікія залы прызначаны на экспанаты аб канцлагеры. І трэба з удзячнасцю прызнаць, што дырэктар музея Яўгенія Фёдараўна Бажок вельмі дбае пра здабыванне экспанатаў да гэтых залаў.

Вялікі прыгожы будынак раённага Дома культуры ў Бярозе запоўніўся так моцна, што нават у праходах між крэсламі стаялі людзі цесна адзін ля другога. Прышлі ў Дом культуры на сустрэчу з намі.

Былыя падпольшчыкі і вязні канцлагера з вялікім ўзрушэннем успаміналі часы супольнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, прабыванне ў турмах і канцлагеры. Вельмі цёпла і сардэчна прымалі прысутныя прамовы выступаючых.

Адспяваннем «Інтэрнацыянала» закончылася сардэчная, братэрская сустрэча «беразякаў» з жыхарамі Бярозы і раёна. Цяжка было развітвацца і ад'язджаць.

З Бярозы мы паехалі ў Мінск. І там вельмі цёпла і садрэчна сустракалі нас прадстаўнікі Цэнтральнага Камітэта партыі, Вярхоўнага Савета Беларусі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і мінчане. Сустрэліся мы там з многімі старымі беларускімі камуністамі, якія дзейнічалі ў радах Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Едучы з Мінска ў Гродна мы наведалі ў Навагрудскім раёне чатыры калгасы, дзе нас таксама горача і сардэчна сустракалі і шчыра частавалі. Агледжаннем Гродна, сустрэчай з прадстаўнікамі партыі, уладаў, старымі камуністамі - падпольшчыкамі і жыхарамі Гродна — закончылася наша падарожжа ў Картуз - Бярозу і па Савецкай Беларусі.

**Уладзімір Станкевіч**

### «САМАВЯЗЫ»

**Так карысная машына, як снапавязалка — званая самавязам — чамусьці не падабаецца сельскагаспадарчым гурткам (кажуць, запасовыя часці ёсць!). Пачынаючы ад 1960 года сельскагаспадарчыя гурткі на Беласточчыне закупілі 2 941 трактар і толькі 1 614 «самавязаў» — пераважна ў заходніх і паўночных паветах. Выходзіць, што на аднаго трактара выпадае паўснапавязалкі — тым часам павінна быць наадварот!**

**«Самавяз» вельмі аблягчае цяжкую работу гаспадара. Сельскагаспадарчыя гурткі, якія распараджаюцца вялікімі капіталамі і крэдытамі, маюць магчымасці аблягчаць гэты цяжар гаспадарскай работы. Ці не дзіўна, што на складах у Бельску ці Гайнаўцы — не гаворачы ўжо аб Саколцы — «гніюць» самавязы, робленыя ў фабрыках з думкай аб палягчэнні гэтай жа няшчаснай работы. (?)** (ся)




### АПОШНЯЯ ГУТАРКА

Падкацілі трап, адчыніліся заднія дзверы самалёта. Спачатку выйшла «першая лэдзі Амерыкі». Прысутныя зашумелі. Потым у праёме дзвярнога люка з'явілася стройная фігура чалавека, добра знаёмага ўсім. У натоўпе зноў узняўся шум. Трэцім павінен быў выйсці Раф Ярбара, але ён вельмі добра ведаў, што прыхільнасцю публікі ў гэтым горадзе карыстаецца толькі ліберал Генры Гонзалес. Таму Ярбара прапусціў Гонзалеса наперад. Калі прэзідэнт, пацiснуўшы руку мэру, адышоў з Жаклін у бок, каб прывітацца з вялікім сямействам дэпутата Гонзалеса, заапладзіравалі нават самыя раўнадушныя мясцовыя палітыкі.

Тым часам фарміраваўся аўтамабільны картэж. Для прэзідэнцкага штаба слова О'Донела было законам. Ён асабіста даваў згоду на назначэнне кожнага члена світы, аж да пілота — палкоўніка Суіндэла, і мог адхіліць кожнага, хто супраціўляўся яго патрабаванням. Але ў адносінах да кангрэсменаў ён аказаўся бяссільным, што неадкладна прадэманстраваў Раф Ярбара. Сенатар пайшоў у бок паўночнай часткі аэрадрома, дзе яго акружыла група мясцовых лібералаў. Яны папярэдзілі Ярбара аб выпадах, якія рыхтуюцца з боку губернатара Конэлі ў Остыне, і прапанавалі сенатару аддзяліцца ў Даласе ад прэзідэнцкага эскорту. Ярбара энергічна кіўнуў: «І ні ў якім выпадку не садзіцеся ў машыну Джонсана, — заявіў Мауры Мэверык-малодшы, які старшынстваваў на гэтай імправізаванай нарадзе. — Тут і ў Х'юстане кожнаму лібералу вядома, якія планы ў Конэлі і Джонсана адносна вас. Вас чакаюць з нецярпеннем. Дазволіце вы ім ажыццявіць гэтыя планы ці не?»

Картэж ужо быў гатовы да ад'езду, а Ярбара ўсё яшчэ не ведаў, куды яму ісці. «Вас хочуць пасадзіць з Джонсанам», — папярэдзіў Мэверык і, як аказалася, меў рацыю. Да Ярбара падышоў целаахоўнік Руфус Янгблад. «Сенатар, ваша месца ў аўтамашыне віцэ-прэзідэнта», — заявіў ён. Ярбара паглядзеў на Янгблада адсутным позіркам, павярнуўся на абцасах і падышоў да Гонзалеса. «Генры, — спытаў ён, — ці не возьмеце вы мяне ў сваю машыну?»

Дэпутат быў у захапленні, прэс-група Белага дома таксама. Убачыўшы, што сенатар пазбягае віцэ - прэзідэнта, яны зрабілі непазбежныя вывады. Прадстаўнікі друку канстатавалі: Ярбара пасварыўся з віцэ-прэзідэнтам.

Візіт Кенедзі ў Сан - Антоніо падняў на ногі нечакана вялікую колькасць цікаўных. Уменне прэзідэнта прыцягваць і зачароўваць масы праявілася і тут. Горад быццам перарадзіўся. Звыш 125 тысяч чалавек, галоўным чынам лацінаамерыканцы, выйшлі на вуліцы. Яны віталі картэж, выражаючы сваю радасць, і збавілі высокіх гасцей ад сузірання бязрадаснага відовішча, якое ў звычайны час прадстаўляе з сябе гэты горад. Над натоўпам развяваліся плакаты, флагі, транспаранты. Усюды былі вывешаны шчыты з напісанымі ад рукі прывітаннямі «Сардэчна запрашаем, Д. Ф. К.!», «Б'ен веніда, містэр прэзідэнт!», — і зусім ужо арыгінальнае: «Джэкі, прыязджайце ў Тэхас катацца на водных лыжах».

Перад бальніцай «Брукс» на плошчы, дзе прэзідэнт павінен быў сказаць прамову, дзьмуў халодны вецер. Палавіна слухачоў не магла разабраць ні слова. Кенедзі падкрэсліў сваю адданасць канцэпцыі «новых рубяжоў». Калі ён скончыў выступленне, усе заапладзіравалі, быццам усё было зразумела.

У 15 гадзін 48 мінут муж і жонка Кенедзі зноў падняліся ў свой самалёт. Яны стаміліся, абліваліся потам. Прэзідэнт і яго жонка адправіліся ў спальны салон. Іх сумеснаму жыццю было суджана прадаўжацца яшчэ амаль цэлы дзень, і гэта была іх апошняя гадзіна, поўная радасці, дакладней, нават менш як гадзіна: палёт да Х'юстана працягваўся толькі 45 мінут.

Прэзідэнт выйшаў са спальнага салона ў свежай кашулі і падазваў да сябе дэпутата Альберта Томаса. Прыём, аказаны Кенедзі ў Сан-Антоніо, зрабіў на Томаса вялікае ўражанне, і ён спадзяваўся, што здолее ў сваёй выбарчай акрузе забяспечыць прэзідэнту не менш удалае «пabліcіці». «Мае людзі працавалі, як пчолы, — заявіў Томас, — яны напэўна змогуць сім-тым парадаваць нас». «Убачым», — адказаў прэзідэнт.

Яны сталі сведкамі поўнага паўтарэння прыёму, наладжанага перад гэтым у аэрапорце Сан-Антоніо. Ліндан чакаў ля трапа; тут жа стаяў мэр, які выпраменьваў гасціннасць; тры тузіны жоўтых рук чакалі першую лэдзі, і 8 тысяч тэхасцаў стоўпіліся ля варот, абліваючыся потам на нясцерпнай пасляпаўднёвай спякоце і да хрыпаты ў горле вітаючы: «Джэкі-і-і!». Томас памахаў рукой сваім выбаршчыкам, якія апладзіравалі, і пакланіўся прэзідэнту. «Ну што?» — спытаў ён з пераможным выглядам. «О'кэй», — засмяяўся Кенедзі. Ля выхаду муж і жонка Кенедзі аддаліся на волю натоўпу. Такія метады вядзення кампаніі не былі знаёмы Джэкі, але яна ўзяла сябе ў рукі, і яе муж быў удзячны ёй за гэта; час ад часу ён аглядаўся на яе, падбадзёрваючы яе ўсмешкай...

Тут прэзідэнт павінен быў ехаць на некалькі меншай белай адкрытай машыне. Ва ўсім астатнім картэж заставаўся тым жа, і Раф Ярбара быў у ім самай калючай фігурай. Агент Янгблад зноў падышоў да яго: «Вы павінны




Даўно ўстаноўлена, што халодныя бліскучыя вочы любой гадзюкі маюць здольнасць гіпнатызаваць сваю ахвяру (жабу, мыш, яшчарку), якая ў здранцвелым стане сама ідзе прама ёй у пашчу.

Сустрэўшы здабычу, гадзюка імгненна прымае баявую стойку: шырока надзімае складкі скуры, пагражальна ўзнімае над паверхняй зямлі чорную галаву, шыпіць і паўзе, паўзе, выпраменьваючы з вачэй-шчылін заварожваючыя праменні-імпульсы. Пад уздзеяннем гэтага своеасаблівага гіпнозу здабыча траціць выратавальную рухавасць, яе актыўнасць скоўваецца, і яна вымушана спыніцца на месцы або ісці добраахвотна насустрач пагібелі.

У апошні час знаўцы прыроды сцвярджаюць, што ў гадзюкі моцна развіты органы нюху. Знаходзячыся на паляванні і часта высоўваючы з рота доўгі, раздвоены на самым канцы язык, яна захоплівае ім маленькія часцінкі, што напаўняюць паветра або знаходзяцца на паверхні прадметаў, і ўносіць іх у зяпу, дзе яны пасля складанай апрацоўкі даюць патрэбную і дакладную інфармацыю. Пры дапамозе свайго высока адчувальнага органа нюху гадзюкі могуць шукаць па слядах здабычу і знаходзіць адна адну. Звычайная лясная гадзюка здольная ўспрымаць розныя духмянасці на адлегласці ад аднаго да двух метраў. Кожнаму жыхару лясной мясцовасці вядома і тое, што гадзюка, убачыўшы чалавека або буйную жывёліну, заўсёды стараецца знайсці зацішны куток і пускае ў ход сваю грозную смяротную зброю ў асобных выпадках, звязаных з абаронай уласнага жыцця.

Калі спалоханая гадзюка не паспее ўцячы з поля зроку чалавека, які, не заўважыўшы яе, па неасцярожнасці наступае на хвост або, горш таго, задумае ўзяць слізкае цела ў рукі, то ў такі момант яна імкнецца нанесці імгненны ўкус. Наш страх перад ядавітай істотай значна перавялічаны.

Многія факты сведчаць аб тым, што пры сустрэчы са сваім буйным ворагам — канём, каровай — гадзюка ніколі не стане сама першай кідацца ў атаку, а імгненна схаваецца ў бліжэйшае сховішча. Ядавітая зброя — зубы — патрэбны ёй перш за ўсё для здабывання ежы і забойства злоўленай ахвяры.

Лясная гадзюка ўвесь летні цёплы перыяд корміцца шкоднымі насякомымі і дробнымі грызунамі. Свае паляўнічыя набегі яна робіць галоўным чынам пад прыкрыццём ночы. Зладзейка бясшумна падкрадваецца да жылля мышэй і ловіць іх; нападае на яшчарак, жаб, знішчае буйных жукоў, падбірае на вільготнай зямлі ўсялякіх чарвякоў.

Сустрэне гадзюка на сваім паляўнічым шляху птушынае гняздо — не адмовіцца пакаштаваць свежых яек. Кепскі лёс чакае і маленькіх птушанят пеўчай драбязы, што выводзяць сваё галасістае патомства на зямлі. Часцей за ўсё ахвярай станавяцца лясныя канькі, жаваранкі, лялькі, сітаўкі...

Утульным жыллём для гадзюк служаць глыбокія норы мышэй, дзіркі ад выгніўшага карэння дрэў, адтуліны пад пнямі, каменнем, мохам. У красавіку месяцы, калі пад агністым сонцам вясны абуджаецца ўся жывая прырода і добра праграюцца імшарна-лугавыя купіны, са сваіх цёмных спальняў выпаўзаюць ядавітыя зімоўшчыкі. Пасля пяці-шасцімесячнага здранцвення яны вельмі любяць гарачыя сонечныя праменні, якія ім патрэбны яшчэ для замены старой «вопраткі» на новую.

Затое ў дні летняй спякоты паўзунам не да спадобы гарачыя ванны. У цяністым малінніку, мокрым моху або ў грудзе ламачча сярод лісцевых зараснікаў ратуе гадзюка сваё цела ад празмернага перагрэву.

У ліпені, калі ўся зямля і паветра плавяцца ад гарачыні, калі над прасторамі палыхаюць бэзавыя сполахі зарніц, гадзюка адкладвае ў норцы больш дзесяці беленькіх яек, з якіх амаль адразу ж, разарваўшы тонкую абалонку, вылупліваюцца дзеці-змеяняты. Першы тыдзень свайго жыцця малышы харчуюцца шкарлупінамі ад яек, а пасля ўжо, стаўшы ядавітымі, пераходзяць да самастойнага палявання.

Ноччу, у хмарныя дні або пры туманным ці дажджлівым надвор'і на жылых стаянках змей назіраецца найбольшая іх актыўнасць. Цела іх мае бураватую, светлую і нават чорную афарбоўку. Па ўсёй спіне цягнецца зігзагападобная чорна-бурая паласа. На ўлонні прыроды галоўнымі ворагамі гадзюкі з'яўляюцца буслы, вожыкі, барсукі, ласкі, сарокі.

Гадзюку нельга лічыць толькі шкодным або толькі карысным стварэннем, але побач з гэтым яна ўсё ж такі ў некаторай ступені з'яўляецца небяспечнай, асабліва для людзей. Яд гадзюк выклікае моцную пухліну, санлівасць, страту прытомнасці, згусанне крыві, разбурае чырвоныя цельцы, паралізуе сэрца, нервовую сістэму і органы дыхання пацярпеўшага.

У сучаснай заалогіі свету апісана каля 2 500 відаў гадзюк, з якіх каля трохсот з'яўляюцца ядавітымі.

Трэба прызнаць, што яд гадзюк яшчэ ў глыбокай старажытнасці выкарыстоўвалі як лякарства медыкі Індыі, Кітая, Егіпта.

Цяпер для лекавых мэт змяіны яд здабываюць у спецыяльных гадавальніках. Вучоныя ўстанавілі, што для таго, каб атрымаць лабараторным шляхам 4—5 грамаў каштоўнага прэпарату, трэба «падаіць» больш як 80 гадзюк. Гэты «ўдой» дае адзін грам сухога рэчыва, якое хапае на 750—800 кілаграмаў дэфіцытнай сыравіны для лячэння рэўматызму, артрыту, ішыясу. Ферменты яду шырока выкарыстоўваюцца ў хіміі, радыяцыйнай біялогіі і генетыцы.

Сябры! Калі вы будзеце ў лесе, не блытайце гадзюку з вераценніцай (мядзянкай) — бязногай ломкай змеепадобнай яшчаркай. Апошняя мае свінцова-шэра-бронзавую афарбоўку цела даўжынёй ад 40 да 60 сантыметраў. У вераценніцы адсутнічаюць ядавітыя зубы, а таму яна не страшная для чалавека.

Яшчарка ў вялікай колькасці знішчае голых слізнякоў, вусеняў, жукоў, матылёў і мноства іншых шкодных паразітаў лясной і сельскай гаспадаркі.

Ломкай яе называюць таму, што яна пры небяспецы заўсёды адкідвае свой хвост і ратуецца ўцёкамі. Ведайце і вужа. Гэты паўзун дасягае паўтара метра даўжыні і мае жоўтыя або аранжавыя шчокі, размешчаныя па баках галавы.

**Ул. Бутараў**

# НА РАДЗІМЕ КУПАЛЫ



**Вязынка.**

У прыгожым кутку Беларусі (былы Вілейскі павет, Віленскай губерні) размясцілася Вязынка. Цудоўная прырода гэтага краю: вакол зялёны бор, прасторныя лугі, звілістыя дарогі. Сярод маляўнічай прыроды гэтага краю па-над невялічкай рачулкай у вёсцы Вязынка стаіць хатка. Тут, у гэтай маленькай хатцы, 7 ліпеня 1882 года нарадзіўся Янка Купала — слава і гордасць беларускага народа.



**Хата, дзе нарадзіўся паэт.**




## УСЯГО ДОБРАГА!

Цяпер, пасля бясконцых допытаў, Віхор, прабіраючыся скрозь натоўп на Старым Рынку, адчуваў, што сляпы ўжо не так напружаны і не так моцна сціскае ў кішэні свой парабелум. Віхор адчуваў, што гестапаўцы схільны верыць яму пасля іх экзамена з ліпавай вельветавай курткай.

Таму цяпер, прадзіраючыся скрозь натоўп, Віхор адчуваў, што на першым этапе магчымых уцёкаў у часе аблавы яму будзе лягчэй, чым пазаўчора, таму што непасрэдная яго ахова ўжо прызвычаілася, загартавалася мінулым днём.

Віхор чакаў аблавы. Ён разумеў, што калі і сёння аблавы не будзе і яму не ўдасца ўцячы, то ён можа заблытацца на допытах. Віхор не лічыў сваіх ворагаў дурнічкамі. Наіўна было б меркаваць, што гестапа было ў поўным няведанні аб нашай разведцы. Пытанне заключалася ў тым, што яны ведалі, што яны маглі ведаць і якімі фактамі, дадзенымі, прозвішчамі і цыфрамі яны маглі — непрыкметна для самога Віхра — выкрыць яго хлусню.

Віхор ішоў, прыглядаючыся да людзей, якія яго акружалі, і думаў аб тым, што цяпер прамаруджанне смерці падобнае. Таму ён з асаблівай увагай углядаўся ў твары людзей і думаў, як яны будуць сябе весці, калі ён кінецца скрозь натоўп — напрапалую, не чакаючы аблавы.

«Або яны ўсе пападаюць, калі пачнецца страляніна або кінуцца ў розныя бакі, і я апынуся ў прастрэльваным калідоры, або сляпы пачне паліць мне ўслед без разбору, ды і доўгі, які спераду, таксама. Хоць з доўгім лягчэй: пакуль ён абернецца, я магу ўцячы далёка, а калі прыгнуся, яны мяне не ўбачаць у натоўпе, — думаў Віхор, — але ўсё роўна пачнуць паліць, людзей загубяць — жах...»

Адчынілася акенца на вежы касцёла і трубач праіграў сваю сумную, трывожную незакончаную песню.

«Яшчэ паўгадзіны мае, — падумаў Віхор, — відаць, яны ў найлепшым выпадку пусцяць мяне яшчэ адзін раз, а потым, хутчэй за ўсё, пачнуць вадзіць свайго чалавека, адзетага пад мяне».

Высока ў небе быццам камары запішчалі. Віхор замёр, працягваючы ісці наперад. Ён цяпер ступаў на наскі, быццам у лесе, на паляванні.

«Цішэй жа вы! — ледзь не крычаў Віхор на людзей, якія ішлі шураючы нагамі па тратуары. — Цішэй вы! Чуеце, самалёты!»

Потым ён убачыў у небе чорныя кропкі: армада самалётаў ішла з захаду на ўсход — бамбіць нашых. Віхор уздыхнуў, апусціў вочы і ўбачыў, як гестапавец, які ішоў спераду, падняўшыся на наскі, заглядвае праз галовы гандляроў іконамі. Віхор прыгнуўся — непрыкметна, шыяй, каб убачыць, куды глядзіць доўгі. Ён убачыў хлопчыка, які поўзаў на каленях і збіраў агрызкі яблык. Гэта быў цыганчык.

Доўгі гестапавец звярнуў, прайшоў міма гандляроў і штурхнуў цыганчыка ў бок наском бота — быццам бы незнарок. Цыганчык падняў галаву, убачыў доўгага і, зразумеўшы небяспеку, пачаў адпаўзаць. Потым падняўся і шмыгнуў паміж гандлярамі. І толькі людское мора галоў захвалявалася там, дзе ён прабягаў.

«Вось! — сцебанула Віхра. — Вось яно!»

— А-а-а! — закрычаў ён, з цэлай сілы ўдарыў «сляпога» па акулярах, і кінуўся ўбок, супрацьлеглы цыганчыку, збіваючы рукамі і нагамі латкі з мінулагодняй капустай, б'ючы сустрэчных людзей па тварах так, каб зрабіць таўкатню. Рынак зашумеў, паплыў; загаласілі свісткі паліцыі; нехта ярасна закрычаў у яго за спіной — пачалася паніка. Паласнуў выстрал, другі...

Віхор бег, сагнуўшыся, выставіўшы наперад галаву, здзіраючы з сябе на бягу сіні пінжак — першую прыкмету.

Віхор на хвіліну падняў галаву: яму трэба было акрэсліць, куды нясло натоўп. Людзі, магчыма, хочуць іншага, кожны сабе, але натоўп ёсць натоўп — у яго свае законы. Рынак несла да вузенькага сціснутага трохпавярховымі дамамі праходу — вуліцы святога Паўла. Віхор пачаў працаваць локцямі, каб трапіць туды адным з першых, выскачыць на Планты, а там вырвацца з горада. Віхор сарваў з галавы старо-

# ТРЫБУНА чытачоў

### РАМОНТ ШКОЛ

Школьнікі на канікулах. За два месяцы яны зноў вернуцца ў школу старэйшыя на адзін клас і з новымі сіламі пачнуць вучобу.

Але каб лепшыя поспехі мела школа неабходна, каб былі добрыя школьныя памяшканні.

У Мілейчыцкай грамадзе (Сямяціцкі павет) прэзідыум ГРН ужо прыступае да аднаўлення школьных памяшканняў, да рамонту — дзе ёсць такая патрэба. Там у сямі пачатковых школах будуць праводзіцца аднаўляючыя рамонты.

(мх)

### ДАРОЖНЫ ЧЫН

Жыхары вёсак Доўгі Брод (Гайнаўскі павет) Забагонне і Пяскі ў нядзелю 11-га чэрвеня дружна прыступілі да дарожнага грамадскага чыну на дарозе, якая спалучае Арэшкава і Палічную. Кожны з удзельнікаў чыну выкапаў роў даўжынёю 10 бягучых метраў. Сяляне гэтых вёсак пастанавілі да маразоў акапаць равамі кіламетравы адрэзак дарогі.

З увагі на тое, што на вызначанай дарозе расце жыта, да далейшай працы прыступяць сяляне пасля жніва.

**Дзімітр Мікуліч**
вёска Пяскі

### НА НАШЫХ ДАРОГАХ

На дарогах Беласточчыны вельмі многа вострых паваротаў. Дарожныя ўлады ліквідуюць іх. Ліквідуецца таксама востры паварот каля Новай Волі пад Міхаловам, ў Ляшках за Заблудавам і ў іншых месцах. Пасля ліквідацыі гэтых вострых паваротаў лягчэй будзе шафёрам ездзіць і менш будзе выпадкаў.

**Мікалай Лаўрэшук**
Бандары

### КАБ МЕНШ БЫЛО НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ

Перыяд канікулаў з'яўляецца асабліва небяспечным на дарогах і вуліцах. У гэты час здараецца значна больш, чым у іншых месяцах, дарожных выпадкаў, у якіх ахвярамі з'яўляюцца дзеці.

У чэрвені, ліпені і жніўні мінулага года ў Беласточкім ваяводстве было 40 выпадкаў. У выніку іх 4 дзяцей панесла смерць, а 36 было пакалечаных.

У 1967 годзе бяспека дзяцей на дарогах таксама знаходзіцца пад пагрозай. На працягу 5-ці месяцаў гэтага года на дарогах і вуліцах Беласточчыны панесло смерць 2 дзяцей, а 15 скалечана. Вось таму аддзел кантролю і дарожнага руху ваяводскай міліцыі звяртаецца да бацькоў, апекуноў, настаўнікаў, выхавацеляў, камендантаў і кіраўнікоў калёній (лагераў) і летніх паўкалёній, да маладзёжных і грамадскіх арганізацый, да арганізатараў экскурсій і да ўсіх людзей, каб не дапускалі да перабегу дзяцей праз дарогі і вуліцы, калі яны не знаходзяцца пад чыёй-небудзь апекай! Вучыце дзяцей правільнага карыстання з дарог! Прывівайце свядомасць дзецям і моладзі, што развага і астарожнасць запэўніць бяспечнае карыстанне з дарог і вуліц.

**капітан М. Младзяноўскі**
Беласток

### СУХАВОЛЬЦЫ

У Сухавольцах, што на Гайнаўшчыне, у хуткім часе ўсе дамы ў вёсцы будуць цаглянымі. Зараз ніхто не будуе хаты з дрэва, а крыццё саломаю належыць ужо да гісторыі. У Сухавольцах зараз больш 30-ці хат пабудавана з цэглы. Многа таксама будуецца з цэглы і пустакаў іншых гаспадарчых будынкаў.

(С.М.)
Сухавольцы

### У ТАРНОПАЛІ

Вёска Тарнопаль (Гайнаўшчына) раскінулася пасярод лесу. Быццам у парку знаходзяцца сялянскія хаты. У вольны час ад працы, гэта значыць у святочныя дні, моладзь неяк групамі сабіраецца, хлопцы сабе, а дзяўчаты сабе. Хлопцы любяць сабірацца пад дрэвамі за крамаю. Пасядаюць там і расказваюць розныя цікаўнасці. А каб весялей і цікавей гаварылася, часам перахіляць чарачку і тады ідуць да сваіх дзяўчат-прыгажунь. Разам яны зацягваюць задушэўную песню, якая рэхам нясецца па лесе і чуваць яе і ў Луцэ, і ў Семяноўцы.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскі**






Дарагое Сэрцайка!

Сябрую з дзяўчынай ужо 2 гады і меў намер з ёю жаніцца. Кахаю Зіну і не ведаю, як аб ёй забыць. Праз увесь час я думаў, што і Зіна мяне кахае, аднак у апошнія святы пераканаўся, што гэта няпраўда. Зіна жыве ў той самай вёсцы, што і я. На Сёмуху ў нашай вёсцы было вяселле. Зініна дваюрадная сястра выходзіла замуж у другую вёску, а Зіна была ў яе старшай друхнай. Старшым дружбантам быў хлопец з Беластока, прыгожы, прыстойны. Калі я зайшоў на забаву, не мог пераждаць, што Зіна з ім гуляе. Праўда, гуляла і са мною. Тады я і сказаў Зіне, каб на другі дзень не ехала ў вяселле на чужую вёску, бо прошта мне зайздрасна, што яна будзе з гэтым хлопцам. А Зіна адказала мне, што мусіць ехаць, бо ёй інакш жа не выпадае, і паехала. Калі прыехала з вяселля, я ўжо не пайшоў да Зіны. Але мне вельмі цяжка, тым больш, што Зіна, убачыўшы мяне на вуліцы, сама падыйшла да мяне і прасіла, каб з ёй пагаварыць. Запэўнівала мяне, што кахае толькі мяне, а ехаць трэба было, бо яна з'яўлялася старшай друхнай. Аднак я не захацеў гаварыць з Зінай і пайшоў. А цяпер вельмі перажываю. Аднак не ведаю, што рабіць. Парай.

Коля з Гайнаўшчыны

Дарагі Коля! Ты крыўдзіш і сябе і Зіну. Як сам гаворыш, яна хоча з табой пагаварыць і прызнаецца, што кахае толькі цябе. У сапраўднасці не бачу прычын, каб гневацца на Зіну. Яна ж жыве сярод людзей і вядома ж, што не будзе заўсёды толькі з табою. Трэба зразумець гэта. Бо зайздрасць да нічога добрага не даводзіць. Пастарайся як найхутчэй пайсці да Зіны і перапрасіць яе за твой неразважлівы паступак. Не можна зайздрасцю знішчыць кахання, якое ў вас, як з лісту відаць, сапраўды ёсць.

**Сэрцайка**

## ПЛЮЦІЧЫ



Хата Рыгора Паплаўскага

Найпрыгажэйшай і найчысцейшай вёскай на Бельшчыне напэўна з'яўляецца вёска Плюцічы. Тут, апрача чысціні на вуліцы і панадворках, перш за ўсё кідаецца ў вочы прыгожая агарожа сялібы. Гонарам гаспадароў з'яўляецца драцяная агарожа. Нідзе на Беласточчыне няма столькі гэтых драцяных брамак і варот. Нават у Бельску ў павятовым мястэчку няма іх столькі, колькі ў Плюцічах. Плюцічы наогул выдзяляюцца імкненнем да прыгажосці. Тут многа дамоў ашалёваных і памаляваных, з рознакаляровымі аканіцамі, вельмі часта аздобленымі вушакамі, шчытамі і капяжамі. Многа ў вёсцы мураваных хат і хляву. Нават цяпер ужо гумнаў (клуняў) не будуюць у Плюцічах драўляных. Ды гэтыя гумны таксама з густам зробленыя. Вось, напрыклад, у Івана Федарука клуня размерам 21x9 метраў. У ёй знаходзіцца і пограб на 90 цэнтнераў бульбы, і месца на вугаль, дровы. Ток, а таксама падлога ў сторанах цэментовая.

Дастаткова паглядзець на будынкі вёскі, каб смела сказаць, што людзі тут жывуць заможна.

— Райскае зараз жыццё, — гаворыць Якуб Федарук. — І апранаюцца па-гарадскому, і ядуць людзі добра, і рэдка хто не мае грошай на ашчаднай кніжцы.

Якуб паказвае на некалькігадовага ўнука, які бегае каля яго, і гаворыць:

— Цяпер на такое во дзіця не ведаюць бацькі што абуць, што адзець. А калісьці босыя і паўголыя хадзілі. Яшчэ цяпер памятаю, мне сямігадоваму хлопцу пашылі першыя нагавіцы і купілі першыя чаравікі.

Якуб расказвае аб сельскай гаспадарцы таго часу.

— На ўчастку калісьці ў нас (участак 12 га) мелі толькі адну карову і аднаго каня. Цяпер па 3—4 каровы трымаюць і па некалькі штук яловак.

— А колькі вучаных і зараз вучацца ў вышэйшых школах людзей з вёскі, дык не палічыць. Вось, напрыклад, сын Грыгарука — інжынер, Васілюка — палкоўнік, а Чэчугі — доктар біялагічных навук.

— Вы толькі не пішыце да газеты, — звяртаецца да мяне дзядзька Якуб.

— У нас, — кажа ён, — не любяць людзі, каб пра іх пісалі. У Плюцічах жыве каля 180 сем'яў. Сярод іх ёсць і бедныя людзі, якім цяжка жывецца. Але іх зусім нямнога. Гэта перш за ўсё старыя людзі, якія не маюць дзяцей, а самім ужо цяжка працаваць на гасцадары, або зноў такія, якім дарослыя дзеці не дапамагаюць.

**М. Хмялеўскі**
Фота аўтара



Клуня Івана Федарука

### ПАЖАРНЫЯ СПАБОРНІЦТВЫ

11 чэрвеня ў Шымках (Беластоцкі павет) адбыліся спаборніцтвы пажарных каманд. Найлепшымі пажарнікамі ў ваколіцы аказаліся дзве пажарныя каманды: з Шымкаў і Бандароў. У індывідуальным спаборніцтве асабліва адзначаўся вялікаю ўмеласцю, здысцыплінаванасцю і хуткасцю ў акцыі член пажарнай каманды ў Бандарах Аляксандр Хлябіч, які заняў першае месца. У групавым спаборніцтве перамагла каманда Шымак перад Бандарамі.

**Л. М.**
Беластоцкі павет

---

га, што бег побач, капялюш, змяў яго, нахлабучыў на галаву. Яго вынесла да Плантаў, ён перабег трамвайныя рэйкі і ўбачыў, як на вуліцы, што ішла да вакзалу, затрашчалі матацыклы паліцыі. Паліцыя перагароджвала дарогу і на суседняй вуліцы.

« Сволачы! Паспелі! — мільганула ў яго галаве. — Кальцо, не вырвуся! Яны ўсё акружаюць!»

Ён глянуў управа — там разварочваўся грузавік з крытым зялёным кузавам; з яго чорнымі камкамі вывальваліся паліцэйскія.

Мільганне ў вачах раптам змянілася затрыманым прывідам — як у перадсмяротную апошнюю хвіліну. «Цырульня» — памалу паплылі перад вачыма літары.

Нейкім апошнім, халодным, адчайным розумам Віхор штурхнуў дзверы; вострa дзвякнуў званок. Цырульнік, збялелыш, зрабіў крок насустрач.

Хвіліну Віхор стаяў на парозе, а потым памалу сказаў:

— Я ўцёк з гестапа. Гэта шукаюць мяне.

Працяг будзе

# КІНО

Праграма

11—16. VII. 1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Piąty wydział" (czeski), 11—12 „Pluton 317" (franc.), 13—14. „Sciana czarownic" (polski), 15—16.

**Нараўка**

„Cierpkie głogi" (polski), „Długość pocalunku 90" (czeski), 12—16.

**Нарва**

„Panie inspektorze" (jugosł.), „Śmierć Belli" (franc.), 12—16.

**Чыжы**

„Przed nami zakręt" (radz.), „Tytoń" (bułg.), 12—16

**Дубічы Царкоўныя**

„Sprawa Barnaby Kosa" czeski), „Nikt niezna prawdy" (radziecki), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Barwy walki" (polski), „Trzy światy Guliwera" (angl.), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Kapral w matni" (franc.), „Sam pośród miasta" (polski), 11—14.

**Міхалова**

„Haszek i jego Szwejk" (radz.), 11—12. „Dialog" (węgierski), 13—14. „Fanfan Tulipan" (franc.), 15—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Szyfry" (polski), „Miłość surowo wzbroniona" (węgierski), 12—16.

**Новы Двор**

„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), „Dni grozy i śmiechu" (USA), 15—16.

---



**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 7.173 Błtk M-3

# АСКОЛКІ

У нядзельку рана прышла да мяне Лабачова Феня, села на столку, застагнала цяжка і расхліпалася...

— Што з табою, Фенечка? — загаварыла я, прадчуваючы якоесь вялікае гора.

— Ах, мая ты сястронка, бяда ў нашай хаці, яшчэ і якая бяда...

— А што, мо' хто захварэў?

— Ой не! Але яшчэ горш, чым хвароба... Толькі папабіла я рук і ўсё надарма!..

— Мо' куранятка вароны пакралі, ці свіні пахварэлі?..

— Ой, Мальвінка, не тое, не тое.

— Мо' мужык дзе бабу другую мае?

Феня глянула на мяне крыўдна і адказала: — Плюнь ты, Мальвінка, мой Толік за работаю света не бачыць... Але так-так, ён гэтаму ўсяму вінаваты...

І зноў раз'ехалася баба на цэлую хату.

— Слухай, Феня, гавары, што здарылася?

Феня, выціраючы беражком фартуха вочы, пачала стракатаць: — Ах, мая даражэнькая, падумай толькі, праз 12 гадоў збіралі мы грош да граша, узбіралі 120 тысяч...

— Грошы з прыскрынка прапалі?

— Не, мы складалі ў ПКО...

— У ПКО яшчэ нікому грошы не згінулі...

— Але мой дурніна Толік, як толькі ўчуў ад людзей, што вайна на Блізкім Усходзе, то пабег і выбраў з ПКО ўсе грошы...

І занялася зноў плачам...

— І ўсе распуталі?

— Асталося толькі 12 тысяч...

— А што з рэштаю?

— Накупіў толькі тавараў усялякіх, што з хаты краму зрабіў. А цукрам, мылам і соллю — цэла паветка завалена. Падумай ты, Мальвінка, праз 12 год білі мы рукі, як аб плот, а аддалі ўсё за 12 гадзін. Цяпер усяго маем па саму шыю, яшчэ й для нашых унукаў хопіць...

— Ну, то хто гэтаму вінаваты?

— А языкі людскія, Мальвінка, языкі!..

— Бач, Феня, бомбы падаюць на Адамашак, а ў нас вось якія пападаюць асколкі...

ЦЁТКА МАЛЬВІНА

# НІЎКА

— Гэта ты запрасіў Кавальскіх на абед?

## НА ГЭТЫ РАЗ

Урач сустрэў на вуліцы знаёмага пацыента з гузам на ілбе і здзівіўся:

— Вы зноў да мяне?

— Не, на гэты раз у суд, на скасаванне шлюбу.

## ПАДХАЛІМ

Перад начальнікам згінаўся,
Аж горб у спадчыну застаўся.

Анатоль Крывіцкі

## АП'ЯНЕЎ АД СУСТРЭЧЫ

— Я ап'янеў ад сустрэчы з гэтым сямействам — выпіў па літру віна за здароўе кожнага члена сям'і, — хваліўся п'яны чалавек.

## АДНА ЗА ТРОХ

Тоўстая жанчына: — Разумееш, сёння ў аўтобусе тры мужчыны паўсхоквалі з сядзенняў і прапанавалі мне месца.

Тонкая жанчына: — І ты ўсе тры заняла, дарагая?

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

Нямецкі пісьменнік Фантанэ, працуючы рэдактарам у адным з берлінскіх выдавецтваў, атрымаў ад маладога паэта некалькі слабых вершаў, якія суправаджаліся такім лістом: «Паколькі знакі прыпынку для мяне не маюць значэння, упішыце іх, калі ласка, самі».

Фантанэ вярнуў аўтару вершы, заўважыўшы: «У наступны раз дашліце мне, калі ласка, знакі прыпынку, а вершы я сам упішу».

## СУМЛЕННАЯ

Адзін хлопец спытаўся ў сваёй каханай:

— Колькі хлопцаў цалавала цябе да мяне?

Але дзяўчына не адказала.

Калі ж прайшло паўгадзіны, а каханая ўсё маўчала, хлопец, злуючыся на сябе ў думках за такое пытанне, вельмі ласкава спытаў яе:

— Мусіць, пакрыўдзілася на мяне, што маўчыш?

— Ды не, — адказала дзяўчына, — я ўсё лічыла.

— Глядзі, над музыканта працуе...

## ДОБРАЯ

Начальнік: — І вы сцвярджаеце, што вы добрая машыністка, а не ўмееце нават замяніць стужку ў машынцы?

Новая машыністка: — А няўжо вы думаеце, што Вердзі мог сам зрабіць піяніна?

## ВЫСОКІ ТАРЫФ

Абвінавачаная, вам трэба заплаціць тысячу франкаў штрафу за зняважу паліцэйскага, які знаходзіўся на пасту. Ці можаце вы яшчэ што-кольвек дадаць?

— Магла б, але пры такім тарыфе не адважуся.

# ДУМКІ ЯСЬЦЫ і АПАЛОНІКА

Чалавек, які мае звязаныя ногі, высока не падскочыць.

Ад зорак загараюцца людскія думкі.

Нявінныя кропелькі слёз значна цяжэйшыя за каменне.

Ніхто не ведае, як заўтра людзі будуць называць сённяшні дзень.

Памятайце: адно блюда не кожнаму аднолькава смакуе. Людзі маюць розныя смакі.

## ЗАКУСІЎ

— Сідар, што гэта ў вас у жывіце пішчыць?

— Ды, напэўна кураняты. Вось нядаўна выпілі, а закусіць не было чым, дык я яйкі з-пад квочкі папіў.

## АДКАЗ ПА СУТНАСЦІ

— Скажы, Таня, хто за цябе напісаў сачыненне?

— Брат.

— Чаму?

— Бо ўчора было Восьмае сакавіка.

## ЧАМУ

— Тата, чаму гэта гаспадары звычайна праводзяць гасцей за парог?

— Каб пераканацца, што яны сапраўды пайшлі.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

На просьбе Аляксандра Варонка з вёскі Рэпіска, Гайнаўскага павета, змяшчаем польскую песню п. з.

### Sobota to mój dzień

1. So-bo-ta to mój dzień, od-chodzą troski w cień,
2. Nic wokół tylko my, speł-nia-ją się me sny
1. wiem, że za-raz cię zo-ba-czę, że nie
2. pa-trzę zno-wu w twoje o-czy, jak pod-
1. mo-że być i-na-czej bo to wła-śnie jest mój
2. -czas samotnych no-cy, lecz to ty a nie twój
REFREN
1. dzień. 2. cień. 1. 2. Znów i-dzie tydzień zły, sześć
długich, pustych dni. Marzę ciągle o so-bocie, ra-no,
wie-czór przy ro-bo-cie mój dzień, mój
dzień mój dzień, so-bo-ta to mój dzień.

Muzyka: Ryszard Poznakowski
Tekst: W. Karszowa

Sobota to mój dzień,
Odchodzą troski w cień,
Wiem, że zaraz cię zobaczę,
Że nie może być inaczej,
Bo to właśnie jest mój dzień.

Nic wokół tylko my,
Spełniają się me sny,
Patrzę znowu w twoje oczy,
Jak podczas samotnych nocy,
Lecz to ty, a nie twój cień.

Refren:

Znów idzie tydzień zły
Sześć długich, pustych dni
Marzę ciągle o sobocie,
Rano, wieczór, przy robocie
Mój dzień, mój dzień, mój dzień
Sobota to mój dzień.

## МАРСКАЯ ДУША

Аднаго адстаўнога боцмана, які вельмі часта прыкладваўся да спіртнога, спыталі, чаму ён гэта робіць. Той адказаў:

— Справа ў тым, што я вельмі цяжка перажываю ростань з морам, таму кожны дзень імітую марскую качку або шторм. Адна бутэлька — умераная качка, дзве — шторм. Праўда, цяпер я пастарэў, і ў штормe бываю не часта — баюся караблекрушэння.

## ЦІ МОЖА БЫЦЬ?

— Праглядзелі мы з вамі — паліца з кнігамі абваліласяг!

— Не можа быць! Там жа стаяла лёгкая літаратура.

# КУРЁЗЫ

## ІДЭАЛЬНЫ МУЖ

Трыццацігадовы лекар Эндру Зілі, які жыве ў Эдзінбургу (Шатландыя), нядаўна атрымаў тытул «Мужа года». Гэты тытул штогадова прысуджаецца таму з англічанаў, які выкажа найбольшы лік сямейнай дабрадзейнасці. Доктар Зілі, ідэальны муж 1966 года, ахвотна дапамагае сваёй жонцы ў працы, дасканала варыць, пячэ, гуляе з дзецьмі, сціраe пялюшкі. Аднак і гэтаму ідэальнаму мужу давялося здаваць яшчэ вусны экзамен: ён адказваў на пытанні па вядзенню гаспадарства і выхаванню дзяцей рознага ўзросту. Ідэальны муж быў узнагароджаны медалем і атрымаў заахвочвальную прэмію.

## ВЫЙСЦІ ЗАМУЖ ТРЭБА ЗНАЦЬ...

Люксембург — адна з нешматлікіх краін, дзе замужняя жанчына пазбаўлена права распараджацца сваёй уласнасцю, яна нічога не можа прадаваць ці дарыць без згоды мужа. Без дазволу мужа нельга пайсці працаваць, нельга мець сваёй ашчаднай кніжкі. Нядаўна жанчыны — юрысты Люксембурга арганізавалі спецыяльную камісію, якая павінна запрапанаваць ураду праект новага закона адносна пашырэння правоў замужніх жанчын.

# МІЖ НАМІ

Сцеражыцеся свайго бліжняга — ён занадта блізка ад цябе.